Адна зямля

Мядзел
Астравец
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Валожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

23 мая 2014 года №21 (995)

**Набылі слуцкі пояс коштам $90 000**
У Мінскім абласным краязнаўчым музеі яго прэзенталі 16 мая. Ён стаў другім у фондзе музея
старонка 6

**На Еўрабачанні ў беларусаў быў “сухі” закон**
Маладзечанскі спявак, шоўмэн і тэлевядучы ўжо двойчы быў на “Еўрабачанні”. З ім – пра конкурс і знаёмства з Канчытай Вурст
старонка 5

**Ці бяспечна дзіця адпраўляць у летнік**
с. 4

**Як падзяліць на пад’езд смеццеправод**
с. 3

**Вышынскія: сітуацыя ў маладзечанскім футболе катастафічная**
с. 22

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Кінатэатр “Мір” пачаў працу

**ВІЛЕЙКА.** У сераду, 21 мая, у кінатэатры “Мір” пасля рамонту пачалі паказваць кіно – пакуль толькі ў зале павышанай камфортнасці. Яна разлічаная на 30 гледачоў, аснашчаная лічбавым абсталяваннем. “Па выхадных будуць тры сеансы: у 15 гадзін (дзіцячы) і два вячэрніх – у 18 і 21 гадзіну. Па будних днях – два вячэрнія сеансы”, – паведаміла начальнік аддзела кінавідэаабслугоўвання насельніцтва Вілейскага раёна Мінаблкінавідэапракату **Святлана Мацецкая**. Рэпертуар будзе такі, як і ў Маладзечне. Білет на дзіцячы сеанс абыдзецца ў 15 тысяч рублёў, на вячэрні – 35 тысяч. Гатовая для прыёму гледачоў і вялікая зала кінатэатра, чакаюць абсталяванне.

### 80-гадовы мужчына кінуўся пад цягнік

**МАЛАДЗЕЧНА.** У 15.09 у аўторак, 20 мая, мужчына здзейсніў самагубства на чыгунцы. Ён кінуўся пад грузавы цягнік Орша-Маладзечна каля прыпыначнага пункта Селівонаўка і загінуў. Асобу мужчыны не ўстанавілі. На выгляд яму 75-80 год, даўжыня цела 170 сантыметраў, хударлявы, сівы. Міліцыя просіць паведаміць тых, хто можа пазнаць загінулага, па тэлефонах **(80176) 74-23-57, (8029) 863-70-46, (8029) 109-01-04** ці **102.** Пра здарэнне распавяла **Таццяна Субач**, старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзялення ўнутраных спраў на транспарце.

**Алесь ВЫСОЦКІ, Зоя ХРУЦКАЯ.**



# 10-метровае дрэва разбіла машыну

Фота Андрэя ХРУЦКАГА.

Машыну маладзечанца прыціснула дрэвам. Кузаў пашкоджаны так моцна, што адрамантаваць яго немагчыма. Побач стаяць яшчэ дрэвы, якія могуць быць небяспечныя.

**МАЛАДЗЕЧНА. Днём у аўторак, 20 мая, дрэва звалілася на машыну маладзечанца Андрэя. Каму належыць гэтае дрэва і хто выплаціць маладому чалавеку ўрон, давядзецца высвятляць праз суд.**

22-гадовы маладзечанец паставіў сваю “Хонду Цывік” на стаянцы каля станкабудаўнічага завода. Калі вярнуўся, то ўбачыў, што на машыну звалілася дрэва.

– Машына стаяла па правілах на стаянцы каля ліцейнага і станкабудаўнічага заводаў, – распавядае Андрэй. – У аўторак не было надзвычайных здарэнняў, не было шторму. З суседніх дрэў не падалі ні галіны, ні лісцікі. Калі мы агледзелі разам ствол разам з работнікам дзяржаўтаінспекцыі, то ўбачылі, што ён увесь трухлявы. Прычым побач ў шэрагу стаяць такія самыя дрэвы. У адным з іх каля каранёў адтуліна. Яны таксама небяспечныя. Прыязджалі прадстаўнікі “Камунальніка”, кажуць, што дрэвы гэта не іх справа. Станказавод таксама кажа, што не іх. Магчыма, што пры ўкладцы асфальту пашкодзілі каранёвую сістэму дрэў і таму яны спарахнелі. Але ж я не ўехаў у дрэва, а паставіў машыну побач.

Машыну Андрэя немагчыма адрамантаваць: дэфармаваны сам кузаў. Для маладога інжынера яго “Хонда Цывік” – каштоўная маёмасць. Яе сярэднярынкавы кошт недзе каля пяці тысяч долараў, гаспадар ўклаў у яе і грошы на рамонт:

– Фактычна ўся зарплата ішла на машыну. За зіму яе падрамантаваў, пылінкі здзімаў. Каб сабраць на новую, мне давядзецца адкладваць тры гады. Я прасты 22-гадовы інжынер, для мяне машына – усе мае грошы. А атрымліваецца, што ніхто не адказвае за тое, што яе больш няма. Вядома, я буду кансультавацца з юрыстамі і падаваць у суд. Іншага варыянту я не бачу. Машына застрахаваная.

### Чыё дрэва, высветліць суд

Галоўны спецыяліст Маладзечанскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя **Сяргей Танана** пракаментаваў сітуацыю:

– Калі б дрэвы былі за агароджай завода, то за іх адказваў бы дакладна завод. Калі ж не, то, хутчэй за ўсё, дрэвы мусіць даглядаць “Зелянгас”, які падпарадкоўваецца “Камунальніку”. Работнікі “Зелянгаса” аглядаюць дрэвы, правяраюць, якія трэба спілаваць, ці ёсць сухія і аварыйныя. Магчыма, гэтае дрэва прапусцілі. У “Камунальніку” ёсць схема, дзе пазначаныя скверы і дрэвы, каму яны належаць. Трэба разбірацца ў сітуацыі, тут адназначна не скажаш. Вырашаць пытанне варта праз суд.

“Рэгіянальная газета” будзе сачыць за развіццём сітуацыі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

На моўныя курсы “Мова Нанова” прыходзяць сем’ямі.



Фота забяспечана Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

“Крылаты Геній салдацкай славы”.

● АДУКАЦЫЯ

# “Мова Нанова” зноў сабрала 60 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА. У чацвер, 15 мая, у Маладзечне адбыліся чарговыя заняткі моўных курсаў “Мова Нанова”.**

Прысвечаныя яны былі беларускім вітанням і зваротам.

Што казаць, калі сустрэўся з сябрам раніцай, днём ці ўвечары? Пра гэта размаўлялі са студэнтамі вядоўцы курсаў карэспандэнтка “РГ” **Настасся Роўда** ды менеджар беларускіх праектаў **Алесь Мазанік**.

Высвятлялі, чаму “ў” – самая важная літара ў беларускім алфавіце.

Наведнікі курсаў пабачылі іспанку **Ангелу Эспінозу**, якая звярнулася да іх па-беларуску і распавяла, чаму яна вучыць нашу родную мову.

Напрыканцы сустрэчы выступіў беларускі музыка, журналіст, радыёвядоўца, лідар гурта “Pomidor/OFF” **Аляксандр Памідораў**.

Да заняткаў можна далучыцца ў любы час.

**Заняткі адбываюцца па чацвяргах а 19-й гадзіне ў “Лівіа” (Вялікі Гасцінец 143 б, гандлёвы цэнтр “Модуль”, 4 паверх). Уваход вольны!**

**Аддзел інфармацыі.**

● ПАМЯЦЬ

## Змітра Сідаровіча памятаюць у Павіллі

**Удзельнікі экспедыцый “Вілля-Neris”, “Шляхам Тышкевіча” смуткуюць з нагоды заўчаснай смерці Змітра Сідаровіча і выказваюць спачуванні яго сыну Тамашу, бацькам, родным і блізкім барда, музыкі, фальклярыста, руплівіца беларускасці.**

Зміцер Сідаровіч браў удзел у экспедыцыях у 2007-2009 гадах. Яго з’яўленне ў экспедыцыі канчаткова растапіла лёд недаверу паміж літоўцамі і беларусамі. Падчас вандровак пачалі ладзіць сумесныя танцы і песні. Так зносіны паміж удзельнікамі сталі вельмі шчырыя і адкрытыя.

У 2009 годзе ў Вільні мы разам святкавалі Купалле ў Звярынцы. З-за навальніцы адключылі электрычнасць ва ўсім раёне на некалькі гадзін. Тады Зміцер выратаваў свята сваёй дудой, а таксама здольнасцямі шоўмена і фальклярыста.



Фота nn.by.

Зміцер Сідаровіч.

Зміцер цудоўна ведаў гісторыю Віленскага краю, і менавіта ён завёў удзельнікаў экспедыцыі на магілкі у Росы. Часта бываў на Вілейшчыне: то ў летніку археалагічнай экспедыцыі у Талуцi, то на кватэрніку, то ў музеі, то разам з сынам адпачываў на лецішчы у сяброў у Асіпавічах.

Яго лёс быў цесна звязаны і з Маладзечнам – меў тут сяброў-музыкаў, а ля Плябані было лецішча яго бацькоў. Там бываў амаль кожныя выхадныя. Зміцер актыўна ўдзельнічаў у святкаванні Дня святога Патрыка ў Люцінцы на Валожыншчыне.

Ён выдаў асабістыя цудоўныя альбомы музыкі, дзіцячы альбом, кнігу “Тры жалуды”. Яго ўдалы фальклорны праект беларускіх танцаў аб’яднаў сотні людзей з Мінска.

...Патэлефанаваў ён апошні раз у пятніцу з прапановай прыняць удзел у фальклорнай экспедыцыі на Глыбоччыну.

А ў суботу яму стала дрэнна і чалавека не стала ...

Яго адпяваў праваслаўны святар па-беларуску і ў апошні шлях музыку праводзілі пад гукі дуды.

**Міхась МІХАЛЕВІЧ, удзельнік экспедыцый.**



● ПАМЯЦЬ

## У Смаргоні ўсталявалі асноўныя скульптуры мемарыяльнага комплексу

**СМАРГОНЬ. Усе тры скульптуры мемарыяльнага комплексу, прысвечанага Першай сусветнай вайне, ужо занялі свае месцы ў парку Перамогі. Іх усталявалі ў нядзелю, 18 мая.**

Дапамагалі ў гэтым супрацоўнікі скульптурнага камбіната Беларускага саюза мастакоў, якія прыехалі са сваім абсталяваннем і на працягу пяці дзен усталёўвалі кампазіцыі. Кран і генератар забяспечыў мясцовы будаўніча-мантажны трэст №41.

Як распавёў скульптар **Уладзімір Церабун**, які займаецца стварэннем мемарыяльнага комплексу, без праблем не абышлося, аднак ужо ўсё зрабілі.

– Мы правялі вялікую працу, – адзначае скульптар. – Аднак работы працягваюцца. Цяпер скульптуры будуць таніраваць. Зоймецца гэтым скульптар **Іван Арцімовіч**. Гэтая частка комплексу – цэнтральная. Яна трымае асноўную кампазіцыю помніка.

Побач ідзе добраўпарадкаванне. Ужо падрыхтавалі пляцоўкі для сямі валуноў. На іх у нішах замацуюць адліўкі з бронзы медальёны. На апошніх будзе напісаная гісторыя вайны ў кароткіх радках ад часу ўваходу немцаў у Смаргонь да падпісання ў Солах дамовы аб перамір’і на Заходнім фронце ў 1917 годзе.

Завяршаюць таксама падрыхтоўку стаянак для машын. Узводзяць падпорныя бетонныя сцены на ўваходнай частцы комплексу.

Пачынаецца праца над капліцай. Звон і бронзавы купал з крыжам ужо падрыхтаваныя.

**Як заўважыў спадар Уладзімір, калі будуць сродкі, то асноўныя працы над мемарыяльным комплексам могуць быць завершаныя ўжо праз два месяцы.**

### Якім будзе мемарыял

Раней “РГ” пісала пра тое, як будзе выглядаць канчатковы варыянт мемарыяльнага комплексу.

Комплекс складаецца з двух частак. Цяпер да стагоддзя ад пачатку вайны будуюць першую. Да заканчэння плануюць збудаваць другую.

Першая расцягнецца на 417 метраў. Гэта – цэнтральная алея.

На ўваходзе будзе напісана, што мемарыяльны комплекс прысвечаны Першай сусветнай вайне, што тут 810 дзён ішлі жорсткія баі і што з 16 тысяч жыхароў вярнуліся ўсяго 120 чалавек.

Далей ідзе мемарыяльная зона, дзе будзе размешчаная карта супрацьстаяння армій, урны з зямлёй з месцаў баёў. Потым – капліца са звонам і Георгіеўскім крыжам. У наступнай частцы алеі будуць усталяваныя тры скульптурныя кампазіцыі: “Бежанцы”, “Салдаты Першай сусветнай” і “Крылаты Геній салдацкай славы”. Потым яшчэ адна зона – зварот да нашчадкаў.

**Настасся РОЎДА.**

ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

# Англійскае чаяпіцце правялі для школьнікаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Як зладзіць адпачынак на чай па-англійску, як прыгатаваць брытанскія закускі і чаму ніводны начальнік у Англіі не забараняе гэты перапынак, даведаліся маладзечанцы.**



Фота забяспечана Таццянай ЛЕТУНОВАЙ.

Удзельнікі англійскай чайнай цырымоніі гуляюць у фанты.

У межах праекта “Па краінах і кантынентах з лыжкай” супрацоўнікі залы літаратуры на замежных мовах Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі 16 мая правялі англійскую чайную цырымонію “At 5 o'clock”.

У ёй удзельнічалі вучні восьмых класаў разам з настаўніцай англійскай мовы **Таццянай Калантай**.

На стале размясцілі традыцыйныя для англійскага чаяпіцця стравы: трохвугольныя бутэрброды з агурком, сырам і яйкам на спецыяльнай этажэрцы. Школьнікам прапанавалі і абавязковыя сконы – спецыяльныя булачкі.

Супрацоўнікі бібліятэкі распавялі, што існуюць чаі для дзённага і вечаровага чаяпіцця, паведамляе **Таццяна Летунова,** галоўны бібліятэкар залы літаратуры на замежных мовах.

Школьнікам распавялі пра традыцыю англійскага чаяпіцця, паказалі прэзентацыю і кароткі фільм. Падчас чаяпіцця ўдзельнікі гулялі ў фанты па-англійску, размаўлялі пра надвор'е, спорт і навіны.

### У Англіі чаем ратавалі ад алкагалізму

Традыцыі англійскага чаяпіцця, якое называюць “At 5 o'clock”, прытрымліваюцца ва ўсёй Брытаніі. На гэты час зачыняюцца крамы і банкі, ніводны кіраўнік не забароніць зрабіць перапынак.

Пайшоў звычай англійскага чаяпіцця ад англійскай каралевы Вікторыі, якая паміж абедам і вячэрай прасіла прынесці чай з лёгкай закускай, а таксама свежы нумар газеты.

А шырока ўвялі гэты перапынак ў канцы 19 стагоддзя прымусова. Урад вельмі непакоіла, што англічане усё больш п'юць алкаголь. Таму і ўвялі 15-хвілінны адпачынак на чай для ўсіх работнікаў.

У англійскіх рэстаранах наведвальніку заўсёды прыносяць шкатулку з чаем, каб ён прыняў рашэнне, які будзе піць. Чай заварваюць у спецыяльным заварніку, нават калі ён у пакуначку. Прычым заварнік павінен быць падагрэты. Пачакайце, пакуль чай заварыцца 3-5 хвілін. А захоўваць куплены чай варта ў бляшанцы.

Англічане заварваюць больш моцны чай. Каб збалансаваць смак, дадаюць малако, лімон ці цукар. Дарэчы, спачатку ў кубак наліваюць малако, а ўжо пасля даліваюць чай.

Сэр Уільям Гладстан, вядомы трапнымі афарызмамі, неяк заўважыў: “Калі халодна, чай вас сагрэе. Калі вам горача, ён вас астудзіць. Калі ў вас кепскі настрой – ён вас падбадзёрыць, калі вы ўзбуджаны – супакоіць.

Зоя ХРУЦКАЯ.

### Рэцэпт сконаў, англійскіх булачак да чаю

**Спатрэбяцца:** *450 грамаў прасеяннай мукі, 1 пакет разрыхляльніка, 1 стакан халоднага малака, 2 яйка, адзін жаўток для змазкі, 85 грамаў мяккага масла, цукровая пудра, 50 грамаў цукру, 60 грамаў разынак, соль.*

Муку змяшайце з разрыхляльнікам і соллю, ператрыце з маслам рукамі. Узбіце яйкі, каб павялічыліся ў аб'ёме ўдвая. Дадайце цукар і паступова ўлівайце малако, пры гэтым перамешвайце сумесь венчыкам.

Змяшайце муку з яйкамі. Дадайце прамытыя разынкі. З цеста сфарміруйце пласт таўшчынёй 2-3 сантыметры і выражце маленькія круглыя булачкі кубкам. Выкладзіце булачкі на бляху з паперай для выпечкі. Змажце булачкі малаком і жаўтком. Выпякайце 25-30 хвілін пры 150 градусах. Гатовыя сконы пасыпце пудрай.

Сконы захоўваюцца некалькі дзён, іх можна замарожваць.

Падчас чаяпіцця на стале стаіць чайнік з чаем ці кавай, трохвугольныя бутэрброды, клубнічны джэм, тлустыя вяршкі і сконы. Гарачыя сконы разломваюць, адну частку адкладаюць. Нажом намазваюць джэм, зверху кладуць вяршкі.

КАМУНАЛЬНАЯ КРАІНА

# Як падзяліць на пад'езд смеццеправод

**МАЛАДЗЕЧНА. Гісторыя маладзечанкі Людмілы і яе “цудоўнага” суседа працягваецца.**

Раней “РГ” пісала пра тое, як дзяўчына са сваім малым дзіцем церпіць ад рамонту, які зладзіў яе сусед. Цяпер ён збірае подпісы за тое, каб яму аддалі смеццеправод, які тэарэтычна належыць усяму пад'езду.

– Гэтае нявялічкае службовае памяшканне, што знаходзіцца побач з уваходам у пад'езд, увесь час займалі інструменты сантэхніка, якія ён там захоўваў, – распавядае Людміла. – Гэта нікога не хвалявала, нікому не было да гэтага справы. Цяпер жа наш “цудоўны” сусед пачаў збіраць подпісы за тое, каб гэты смеццеправод аддалі яму. Таму што яго жонцы цяжка цягаць каляску на другі паверх.

Усе мы людзі. Ён мог проста падысці да гэтага дзядулі ды папрасіць ставіць там каляску, – лічыць дзяўчына. – Але ж ён што робіць? Ідзе скардзіцца ў ЖРЭУ. А подпісаў назбіраў усяго адзін.

Людміла таксама мае дзіця і цягае каляску. Акрамя яе ў пад'ездзе ёсць яшчэ адна жанчына, з малым дзіцём.

Аднак смеццеправод адзін. І наўрад ці там змесціцца больш за адну каляску. Камусьці давядзецца па-ранейшаму цягаць яе на свой паверх.

### Тлумачыць спецыяліст ЖРЭУ-4

Як распавёў намеснік начальніка ЖРЭУ-4 **Максім Чаеўскі**, у такой сітуацыі жыльцы пад'езда мусяць самі разабрацца, хто будзе карыстацца смеццеправодам. Гэта нежылое памяшканне, якое нікому не належыць, а карыстацца ім могуць усе жыльцы. Каб пачаць здаваць яго ў арэнду, трэба змяніць гэты статус.

Таму пакуль ЖРЭУ загадала цяперашняму “уладальніку” смеццеправода вызваліць памяшканне ад яго рэчаў. Жыхары ж пад'езда тым часам мусяць дамовіцца паміж сабой, як яны будуць карыстацца гэтым пакоем.

Калі дамовіцца яны не змогуць, то ЖРЭУ папросту павесіць замок і ўвогуле ніхто туды не будзе заходзіць.

Настасся РОЎДА.

| Курсы валют НБ РБ | 15.05 | 22.05 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 020,00 | **10 040,00** |
| Еўра | 13 740,00 | **13 770,00** |
| Злоты | 288,50 | **3 287,81** |
| Літ | 3 980,06 | **3 987,05** |
| Расійскі рубель | 288,50 | **291,00** |
| Грыўня | 843,79 | **834,93** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Еўра | 13700/13780 | **13730/13810** |
| Долар ЗША | 10000/10050 | **10030/10070** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 13.05 | 21.05 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 110900 | **110900** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 63600 | **58050** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 27800 | **27900** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | 95000 | **95000** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 28500 | **28000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 34500 | **34800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 102000 | **102500** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9700 | **10500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9500 | **9500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 13000 | **13000** |
| **Алей “Кум”** | 14500 | **14500** |
| **Маянэз**, 200 г | 5500 | **5500** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 8000 | **8000** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9000 | **9000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **12500** |
| **Капуста**, 1 кг | 11000 | **14000** |
| **Морква**, 1 кг | 8000 | **6900** |
| **Буракі**, 1 кг | 7000 | **9500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 24900 | **29500** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 17900 | **23900** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 25500 | **26500** |
| **Памідоры**, 1 кг | 18500 | **17500** |
| **Агуркі**, 1 кг | 12500 | **18900** |
| **Перац**, 1 кг | 38800 | **37900** |
| **Вінаград**, 1 кг | 28500 | **25500** |
| **Бананы**, 1 кг | 17500 | **11500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10500 | **10500** |
| **Грушы**, 1 кг (Канферэнцыя) | 25500 | **24900** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| **Масла**, 1 кг | 80000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **45000** |
| **Бульба**, маладая 1 кг | 17000 | **17000** |
| **Сала**, 1 кг | 70000 | **70000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 50000 | **50000** |


Фота ns-perun.com.ua

Дзеці пачнуць заязджаць у летнікі з 1 чэрвеня.

# Ці бяспечна дзіця адпраўляць у летнік

**МАЛАДЗЕЧНА. Над чым ужо цяпер працуе міліцыя, а таксама што за крымінал здараўся ў месцах для адпачынку дзяцей летась.**

Ад мая да кастрычніка УУС Мінаблвыканкама на тэрыторыі вобласці ладзіць мерапрыемствы, прадугледжаныя міжведамаснай праграмай "Клопат".

Пытанні арганізацыі аздараўлення разгледзелі на пасяджэнні Мінскага аблвыканкама.

Летам у Маладзечанскім раёне будуць працаваць каля 10 стацыянарных летнікаў з кругласутачным знаходжаннем у іх дзяцей. Дзевяць з іх – падведамасныя прадпрыемствам і арганізацыям. Больш за 50 – з дзённым знаходжаннем на базе ўстаноў адукацыі і больш за 40 намётавых летнікаў.

Таксама адкрыюць адзін абаронна-спартыўны летнік на базе "Івалгі", у які ў першую чаргу будуць накіроўваць падлеткаў-правапарушальнікаў.

Дзецям з малазабяспечаных сем'яў, дзецям-сіротам, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, выдадуць бясплатныя пуцёўкі.

На Маладзечаншчыне плануюць аздаравіць больш за 10 тысяч дзяцей.

### Міліцыя ўжо рыхтуецца

Каб забяспечыць належную ахову грамадскага парадку, асабістую і маёмасную бяспеку дзяцей, за кожным летнікам замацоўць супрацоўнікаў міліцыі. У загарадных летніках з кругласутачным знаходжаннем дзяцей супрацоўнікі міліцыі будуць дзяжурыць увесь час.

Падлеткі пачнуць заязджаць у летнікі з 1 чэрвеня. Аднак ужо ад 1 мая супрацоўнікі органаў унутраных спраў разам з іншымі дзяржаўнымі ўстановамі правяраюць, наколькі дзіцячыя летнікі бяспечныя для тых, хто будзе тут адпачываць.

Калі падчас праверак знойдуць парушэнні, прадпрыемствам і арганізацыям – уласнікам летнікаў – будуць даваць канкрэтныя тэрміны, каб выправіць недахопы.

Таксама арганізуюць камісіі па праверцы гатоўнасці летнікаў да сезона.

Летам арганізуюць і рэйдавыя мерапрыемствы па месцах масавага адпачынку моладзі, а таксама па дзіцячых аздараўленчых летніках.

Ад пачатку працы летнікаў створаць спецыяльныя рухомыя групы, якія будуць аб'язджаць месцы масавага адпачынку ў вячэрні і начны час.

Інфармацыю пра любыя правапарушэнні ў летніках будуць аператыўна правяраць супрацоўнікі УУС Мінаблвыканкама.

Падвысіцца патрабавальнасць да работнікаў лагераў, каб не дапусціць на тэрыторыю старонніх асоб, сяброў і знаёмых адпачывальнікаў, моладзі з бліжэйшых населеных пунктаў.

Ад моманту заезду дзяцей узмоцняць кантроль за размяшчэннем падлеткаў у летніках па ўзроставых і іншых крытэрыях.

### Скралі ежу, сукенку і красоўкі

Сочаць за бяспекай адпачывальнікаў і ў стацыянарных дзіцячых аздараўленчых летніках. У іх відавочна знізілася колькасць злачынстваў.

Пазалетась у летніках іх было восем. Летась усяго тры. Першае – калі павары летніка скралі прадукты харчавання. Адбылося гэта на Маладзечаншчыне ў дзіцячым аздараўленчым лагеры "Купалінка". Другое, калі ў дзяўчынкі скралі сукенку. Здарыўся такі выпадак у Смалявіцкім раёне ў летніку "Хваля". Трэцяе, калі ў работніка летніка "Гарызонт" на Маладзечаншчыне скралі красоўкі.

Акрамя гэтага, летась на тэрыторыі летнікаў было 15 правапарушэнняў. З іх дзевяць – крадзяжы прадуктаў харчавання.

### Сышоў з летніка – збіла машына

Стала менш дзяцей, якія самавольна пакідаюць летнікі. Пазалетась іх было дзесяць, а летась – пяць. Апошнія пакінулі летнік "Гарызонт" на Маладзечаншчыне. Трое з гэтых дзяцей – выхаванцы мінскай школы-інтэрната №5, яшчэ адзін хлопец – выхаванец Грозаўскай школы-інтэрната Капыльскага раёна і яшчэ адзін – жыхар Мінска).

Летась адбылося і надзвычайнае здарэнне. Падлетак, які быў на аздараўленні ў летніку "Гарызонт" у Маладзечанскім раёне, паблізу ад Радашкавіч, сышоў. Ад 15 да 16 ліпеня тут адбывалася пераменка паміж 2 і 3-й зменамі. У гэты час супрацоўнікі міліцыі адсутнічалі. Нават нягледзячы на тое, што ў летніку знаходзіліся 94 дзіцяці з інтэрнатаў сталіцы. Шаснаццацігадовы выхаванец мінскай школы-інтэрната №5 вырашыў сысці з лагера. Здарылася гэта 15 ліпеня. Каля 22.15 падлетка, які перабягаў дарогу, збіла машына. Хлопец не выжыў.

### Няшчасныя выпадкі на вадзе

Нягледзячы на дадатковыя меры па папярэджанні няшчасных выпадкаў, летам павялічваецца іх колькасць на вадзе.

Летась за летні сезон патанулі восем чалавек. І ўжо сёлета – двое дзяцей.

### Летам часцей здараюцца аварыі

Не губляе актуальнасці прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму.

Толькі ў Мінскай вобласці штогод адбываецца да 130 аварый, у якіх гінуць і атрымліваюць траўмы дзеці. Аднак найбольшая іх колькасць адбываецца ад красавіка па кастрычнік.

Ад пачатку года на тэрыторыі Мінскай вобласці з удзелам дзяцей здарылася 26 аварый, у якіх пяцёра дзяцей загінулі і 22 атрымалі траўмы. Дзесяць ДТЗ адбыліся з удзелам дзяцей-пасажыраў, у якіх двое дзяцей загінулі і дзевяць атрымалі траўмы. У сямі здарэннях дзеці не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі або знаходзіліся без спецыяльнага дзіцячага аўтакрэсла.

Працуе ў кругласутачным рэжыме тэлефон "гарачай лініі" УУС Мінаблвыканкама **8-017-3727387** на базе прыёмніка-размеркавальніка УУС, па якім можна ўнесці прапановы па паляпшэнню арганізацыі работы дзіцячых аздараўленчых летнікаў.

**Паводле інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

● **БЯСПЕКА**

## Як паводзіць сябе падчас навальніцы

**МАЛАДЗЕЧНА. Парады, якія дапамогуць захаваць жыццё.**

– Не хавайцеся ў невялікіх пабудовах, навесах, палатках альбо сярод ізаляваных дрэў.

– Не хавайцеся пад высокімі дрэвамі. Асабліва, калі яны стаяць асобна. Больш небяспечнымі лічацца таполя, елка, хвоя. Радзей маланка б'е ў бярозу і клён. Амаль не бывае, каб ўдарыла ў хмызняк.

– Не трымайце ў руках доўгія металічныя прадметы, напрыклад, вуды, парасоны.

– Не дакранайцеся да металічных збудаванняў, агароджаў з дроту альбо металічнага дроту для сушкі бялізны. Не падыходзьце да іх.

– Не ездзіце ў гэты час на ровары.

– Не размаўляйце па мабільным тэлефоне. Калі трэба выклікаць службы экстраннай дапамогі, размаўляйце як мага хутчэй.

– Калі вы купаецеся, адразу выходзьце з вады і схавайцеся ў найбольш бяспечным месцы. Мокрае цела і сырое адзенне павышаюць магчымасць няшчаснага здарэння. Падчас навальніцы небяспечна знаходзіцца на берагах рэк, азёр і сажалак, таму што маланка часта б'е ў ваду.

– Калі вы знаходзіцеся ў памяшканні, трэба трымацца далей ад вокнаў, электрапрыбораў, а таксама труб і іншай металічнай сантэхнікі.

– Калі да прыстанішча далёка – прыгніцеся. Лепш трымацца па аднаму. Пажадана схавацца ў якім-небудзь паглыбленні. Ногі трымайце разам і здыміце з сябе ўсе металічныя прадметы. Не кладзіцеся на зямлю, але імкніцеся не апынуцца самай высокай кропкай на мясцовасці.

– Калі валасы ўсталі дыбам ці вы чуеце гудзенне з боку бліжэйшых прадметаў, напрыклад, буйных камянёў або платоў, – адразу перайдзіце на іншае месца.

– Перад навальніцай адключыце знешнія антэны і выключыце з разеткі радыёпрыёмнікі і тэлевізары, мадэмы і крыніцы сілкавання.

– Калі падчас навальніцы вы апынуліся не ў памяшканні, паспрабуйце схавацца ў паглыбленнях, ля падножжа схілаў, можна прысесці ў сухую яму, траншэю.

– Не трэба бегчы, мітусіцца.

– Калі вы ў турыстычным паходзе, трэба хутка паставіць палаткі і, пераапрануўшыся ў сухую вопратку, знаходзіцца ўнутры. Металічныя прадметы (посуд, сякеры і г.д.) трэба аднесці на некалькі метраў ад летніка.

– Будынкі, якія маюць цэнтральнае ацяпленне і водаправод, практычна абароненыя ад удару маланкі. Аднак неабходна выключыць з сеткі электрапрыборы, не карыстацца тэлефонам, не дакранацца да водаправодных кранаў, не стаяць каля адчыненага акна.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

## Перад тым, як лезці ў ваду, навучыцеся плаваць

**МАЛАДЗЕЧНА. Некалькі простых парадаў, як зрабіць так, каб купанне не прынесла бяды.**

Тры асноўныя парады:

1. Навучыся плаваць – гэта галоўнае.

2. Калі дрэнна плаваеце – не давярайце надзіманым матрацам і колам.

3. Паніка – асноўная прычына трагедый на вадзе. Ніколі не паддавайся паніцы.

### Памятайце

Купацца можна толькі ў дазволеных месцах і ў прысутнасці дарослых.

Нельга ныраць у незнаёмых месцах – на дне могуць быць прытопленыя бярвенні, камяні, карчы, металічныя пруты і г. д.

Нельга купацца ў забалочаных месцах і там, дзе ёсць водарасці або ціна.

Нельга заплываць далёка ад берага.

Нельга ладзіць у вадзе гульні, звязаныя з захватамі;

Калі звяло сутаргай мышцы, плывіце да берага на спіне. Пры гэтым імкніцеся расціраць зведзеныя мышцы.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС.**

● МУЗЫКА

# На Еўрабачанні ў беларусаў быў “сухі” закон

**МАЛАДЗЕЧНА. Арцём Ахпаш – спявак, шоўмэн, тэлевядучы і маладзечанец, які ўжо двойчы быў на “Еўрабачанні”.**

Пра конкурс і знаёмства з Канчытай Вурст, што аб'ядноўвае “Матрыцу” і “Гары Потара”, чым кампенсуе сваё няўменне маляваць, Арцём распавёў за паўгадзіны да конкурсу “Міс Маладзечна-2014”, куды ён быў запрошаны ў якасці вядучага.

**– Вы часты госць у Маладзечне?**

– Я маладзечанец да мозгу касцей. Я вельмі люблю гэты горад, таму, калі мяне сюды запрашаюць правесці канцэрт ці паўдзельнічаць у ім, я ніколі не адмаўляюся. Ва ўсёй Беларусі ў мяне два улюбёных горада: Маладзечна, таму што я тут нарадзіўся, і Гродна, таму што гэты горад падарыў мне маю жонку Яўгенію.

Арцём прадстаўляе мне Яўгенію, і наступнае пытанне я задаю ёй:

**– Вы прыехалі на конкурс прыгажосці разам, таму што баіцеся Арцёма аднаго ў царства прыгажунь адпускаць?**

– Не, я пасля польскай дэлегацыі на Еўрабачанні ўжо нічога не баюся. А прыехалі разам, таму што мы заўсёды разам. Я па адукацыі рэжысёр, таму мне цікава, як адбываецца пастаноўкі такога грандыёзнага дзеяння.

**– Раз вы ўжо прыгадалі конкурс Еўрабачанне, то распавядзіце пра яго падрабязней,** – звяртаюся зноў да Арцёма.

– На Еўрабачанні пакуль два чалавека ад Беларусі былі двойчы. Я і Пётр Ялфімаў. У 2011 годзе я ездзіў у якасці бэк-вакаліста Анастасіі Вінніквай, сёлета – у якасці бэк-вакаліста Тэа. Засталося сольна з'ездзіць.

**– А можа такое здарыцца?**

– Усё можа быць. Я не хачу загадваць наперад, але калі будзе годная песня, чаму не. Еўрабачанне ўсё ж такі песенны конкурс, Еўропа ацэньвае песню. Таму і Галандыя, як вы бачылі, заняла высокае месца. Удзельнікі ад Галандыі выйшлі, добра спелі добрую песню і ўсё.

**– А як жа пераможца конкурсу Канчыта Вурст? Дарэчы, вы з ёй знаёмыя?**

– Ну песня ж была добрая, магчыма нехта ў ёй знайшоў сэнс, там жа радкі такія ёсць “Я трансфармуюся”, нумар пастаўлены. Таму нічога дзіўнага, хаця мы, калі абмяркоўвалі паміж сабой, не маглі ўявіць яе пераможцай. А што датычыцца знаёмства, то яшчэ на першай еўравечарыне ў Амстэрдаме Канчыта заўважыла нашага Юру (Юры Вашчук сапраўднае імя спевака Тэа. – Рэд.) і сказала: “Ой, які хлопчык, трэба з ім пазнаёміцца”.

**– Чым асабіста вам запомніцца конкурс?**

– Атмасферай. Там, у Капенгагене, цяжка было сустрэць пахмурных, непрыязных людзей. Наадварот, усе ўсміхаліся, сябравалі. Тое ж магу сказаць і пра нашу дэлегацыю. Трэбы было, каб зоркі так сышліся, каб падабралася каманда такіх прафесіяналаў. Гэта і кіраўнік дэлегацыі Марат Маркаў, Вольга Шлягер, Вольга Саламаха, Яўген Перлін, здымачная група, дактары-фаніятары, – усяго 22 чалавекі. А яшчэ ў нас быў сухі закон. Ніякіх алкагольных напояў, але і без гэтага наша дэлегацыя была самай драйвовай.

## Не важна хто перамагае, абы гэта былі мы

**– Калі Беларусь стане пераможцай конкурсу?**

– Каб такое здарылася, дастаткова працаваць у тым жа духу. І, мяркую, у хуткім часе Беларусь зможа выклікаць фурор на гэтым конкурсе. А, увогуле, не важна, хто перамагае, галоўнае, – каб гэта былі мы.

**– Пасля конкурсу надыйшоў час расслабіцца і перавесці дух?**

– Не, расслабляцца няма калі. Зараз распрацоўваю для радыё некалькі сваіх праектаў. Магчыма, адна з ім будзе пра артыстаў дубляжа. Вось вы ведаеце, што Гары Потара і хлопчыка з “Матрыцы”, які гаварыў: “Не спрабуй сагнуць лыжку. Гэта немагчыма. Лыжкі не існуе” – агучвае адзін і той жа акцёр Мікалай Быстроў? Вось пра гэта і перадача.

**– Арцём, вы і вядучы, і акцёр, і спявак. У якой ролі сабе адчуваеце больш камфортна? У чым сябе хацелі б паспрабаваць?**

– На дадзеным этапе мне цікава ўсё. І тэлевізійныя праекты, і кіно. Але як не бывае былых міліцыянераў, так не бывае былых вакалістаў. Таму і пець не кідаю. Я па-за сцэнай увогуле сябе не ўяўляю, часам задаю сабе пытанне: а што далей, у 50-60 гадоў… Але пакуль адказу на гэтае пытанне не маю.

**– Чытала пра вас, што вы самы беларускі грэк.**

– Так, па нацыянальнасці я грэк. Пра гэта і пазнака ў пашпарце ёсць. Дзядуля быў грэкам. Падчас вайны прыехаў сюды, тут і застаўся. Мяне часта пытаюцца, чаму ты грэк, а жывеш у Беларусі, на што я адказваю: “Хіба ўсе армяне жывуць у Ерэване?” На сваёй гістарычнай радзіме я бываю раз на год. У нас з Жэняй была мара, якая спраўдзілася – ажаніцца ў Грэцыі. Але калі нам тут давядзілася прад'яўляць пасведчанне аб шлюбе на грэчаскай мове памерам з альбомны ліст, бачылі непаразуменне. Таму і давялося іграць вяселле яшчэ раз у Беларусі, у Гродне. Цяпер у нас дзве даты вяселля.

## Сакрэт поспеху – гаварыць сабе: “Усё проста”

**– А калі выбіраць паміж кухняй грэчаскай і беларускай, якая на вашым стале бывае часцей?**

Яўгенія: – Мы з Арцёмам прыхільнікі здаровага харчавання, а беларуская кухня вельмі каларыйная, таму часцей за ўсё на нашым стале бываюць як раз стравы грэчаскай кухні. Дарэчы, адзін з талентаў Арцёма – гэта яго ўменне гатаваць.

Арцём: – Для мяне гэта таксама творчасць. Я ўключаю музыку, лёгкую, сонечную, часцей, грэчаскую, і гатую. Гэта як ствараць карціну: тое ж змяшэнне колераў. Я ўвогуле не ўмею маляваць, вось таму і кампенсую прыгатаваннем салаты.

**– Ці ёсць у вас якая ключавая фраза, якой вы кіруецеся, каб усё дастала, або не атрымоўваецца?**

– Я заўсёды кажу сабе “Усё проста”. Вось і ўвесь сакрэт. Тое ж раю ўсім. Калі не ведаеце з якога боку падысці да хвалюючай вас праблемы, проста ўслых скажыце сабе: “Усё проста!” І рухайцеся далей.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Арцём Ахпаш: Маладзечна для мяне самы родны горад. Сюды хочацца вяртацца заўсёды.**

● КНІГІ

# Выдалі кнігу ўспамінаў Мікалая Махнача

**ВАЛОЖЫН. Прэзентацыя кніні валожынца адбудзецца ў чацвер, 29 мая, а 16-й гадзіне ў Мінску ў бібліятэцы Акадэміі навук.**

У падрыхтоўцы кнігі бралі ўдзел сябры БГА “Ветэраны Адраджэння” **Міхась Чарняўскі**, **Змісер Санько**, **Юрась Грыбоўскі**, **Здзіслаў Сіцька** і **Яўгенія Чаплінская**.

– Кнігу ўжо даслалі Мікалаю Махначу ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ён цяпер жыве, – распавядае жонка ўкладальніка кнігі Міхася Чарняўскага спадарыня **Святлана**. – У тэлефоннай размове ён сказаў, што задаволены, і кніга яму спадабалася.

Яна выходзіць ужо ў другі раз. Выданнем займаўся галоўны рэдактар выдавецтва “Тэхналогія” Зміцер Санько.

На вокладцы – здымак разбуранага манастыра Монтэ-Касіна, Італія, 1944 год. У кнізе каля 130 старонак.

Адзаду на вокладцы прыведзеныя словы Зміцера Санько:

“Гэтая кніга сваім сюжэтам нагадвае авантурны раман. Беларускі хлопец з Валожына, мабілізаваны ў 1941 годзе на лесараспрацоўкі ў Карэлію, прайшоўшы шмат выпрабаванняў, трапляе па нейкім часе – праз сярэднюю Азію, блізкі Усход, Афрыку і Апеніны – у Брытанію, а потым у Амерыку… Але гэта не мастацкая выдумка. Гэта праўдзівы выдзяпіс удзельніка Другой сусветнай вайны на заходнім тэатры ваенных дзеянняў. Бліскучая памяць аўтара ўзнаўляе мноства фактаў, імёнаў, лічбаў, трапных назіранняў. У дадатку да кнігі – не менш змястоўныя ўспаміны яго сястры Валянціны Махнач-Слабодчыкавай і выбраныя ліставанні”.

**Настасся РОЎДА.**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Набылі слуцкі пояс коштам $90 000

**МАЛАДЗЕЧНА. У Мінскім абласным краязнаўчым музеі прэзентавалі слуцкі пояс у пятніцу, 16 мая. Ён стаў другім у фондзе музея.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Прадстаўнік Нацыянальнага банка Беларусі перадае Мінскаму абласному краязнаўчаму музею серыю сярэбраных манет.

Перад прэзентацыяй для гасцей правялі экскурсію па пастаяннай экспазіцыі "Гісторыя Міншчыны", якую адкрылі восенню 2011 года. Сярод экспанатаў ў "шляхецкім кутку" месціцца нямецкае фартэпіяна. І ўпершыню за некалькі стагоддзяў яно загучала менавіта на гэтай прэзентацыі.

Дырэктар музея **Таіса Лянкевіч** распавяла пра шлях, які інструмент прайшоў, каб атрымаць другое жыццё:

– Яго адрэстаўравалі, але трэба было прывезці ў Маладзечна. Мы папрасілі супрацоўнікаў МНС, каб дапамаглі. Выратавальнікі паставілі піяніна на першым паверсе, а трэба было пасля падняць па другі, дзе экспазіцыя. Мы звярнуліся ў ваенкамат. Салдаты нам дапамаглі і паднялі фартэпіяна. Потым нам дапамог музкаледж: інструмент настроілі і запрасілі студэнтку 2 курса, лаўрэата міжнародных конкурсаў **Алену Кавалевіч**, каб яна выканала вальс Шапэна.

Пасля супрацоўніцы музея прынеслі галоўную падзею імпрэзы. Пра слуцкі пояс распавяла намеснік дырэктара па навуковай працы **Наталля Палтавец**.

Слуцкі пояс 18 стагоддзя набылі ў мінскага калекцыянера за 90 тысяч долараў за бюджэтныя сродкі. На ім ёсць забруджванні. Таму хутка яго перададуць спецыялістам, якія вызначаць, якой рэстаўрацыі пояс патрабуе. А таксама з яго зробяць копію. Яна стане падарункам найвышэйшага ўзроўню.

У гэты ж дзень прадстаўнік Нацыянальнага банка перадаў у дар музею серыю сярэбраных манет. На адной з іх – выява першага слуцкага пояса музея, які з Масквы ў 80-х гадах прывёз **Генадзь Каханоўскі**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Наведвальнікі былі зачараваныя раскошай слуцкага пояса.

МУЗЕІ

## Віляйчане глядзелі дэфіле і вучыліся танцаваць твіст

**ВІЛЕЙКА. Мерапрыемства "Ноч музеяў-2014" – "Fashion night-70-х" адбылося 18 мая ў зале выстаў імя Сілівановіча.**

На выставе "Мода для народа. 1970-я" наведвальнікі пабачылі, з якіх тканін майстрыхі ўмудраліся ствараць сябе абноўкі. Асобны куток быў адведзены да адной са знакавых падзей – вяселля. Яшчэ адзін раздзел выставы называўся "Моды з кінафільмаў". А з фатаграфій маглі атрымаць ўяўленне, як тады апраналіся віляйчане.

– На мой погляд, самае цікавае, што было на свяце, – гэта паказ мод, – дзеліцца навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Віляйчанкі пазнаходзілі дома сукенкі, якія насілі ў 70-х гадах, прайшліся ў іх. Маладыя ж дзяўчаты прадэманстравалі, як тыя мадэлі могуць зараз выглядаць на іх.

Вілейскія артысты парадавалі ўсіх вядомымі песнямі 70-х год. А да ўсяго, гасцей свята вучылі танцаваць твіст.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота забяспечана Надзеяй АЎДЗЕЙ.

Дэфіле ў сукенках 70-х зацікавіла наведвальнікаў "Ночы музеяў" у Вілейцы.

МУЗЕІ

## На "Ноч музеяў" слухалі украінскія байкі і татарскія прымаўкі

**МЯДЗЕЛ. У другі раз мядзельскі музей народнай славы ўдзельнічаў у міжнароднай акцыі "Ноч музеяў".**

Калі летась мядзяльчане змаглі акунуцца ў савецкую эпоху, то сёлета бліжэй знаёміліся з традыцыямі нацыянальнасцяў, прадстаўнікі якіх пражываюць у нарачанскім краі. Мерапрыемства "Ноч музеяў-2014. У азёрным краі, на адной зямлі..." адбылося 16 мая.

Знаёмства пачалі ўжо з прыступак музея: тут вядоўцы ў строях розных нацыянальнасцяў прывіталі гасцей і запрасілі ўсярэдзіну.

Супрацоўнікі музея і аддзела культуры пастараліся пра кожную нацыянальнасць ды іх традыцыі не толькі расказ падрыхтаваць, але і выставу стварыць.

– З пасольства Украіны нам прадставілі выставу, прысвечаную 200-годдзю Тараса Шаўчэнкі, з пасольства Літвы – фотавыставу "Востраў Гервяты", на якой адлюстравана жыццё літоўцаў на Беларусі, – расказвае дырэктар музея **Святлана Чарняўская.** – Цікавыя экспанаты прывезлі з музея гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі. А з горада Заволжʼе ў Расіі даслалі вырабы дзяцей – яны застануцца ў нас у музеі. Паспрыяла ў гэтым прадстаўніцтва Ніжагародскай вобласці ў Беларусі. А вось для татарскай выставы дакументы, старадаўнія Караны прынесла ўраджэнка Мядзела **Лілія Мухля.** Дапаўнялі выставы прадметамі з фондаў музея.

Мядзяльчане маглі не толькі маглі пабачыць экспанаты, але і далучыцца да дзеі. З рускім "медзведзянём" разгадвалі загадкі і вадзілі карагоды. З дзяўчатамі ў татарскіх строях іх прымаўкі параўноўвалі з беларускімі. Можна было і літоўскі танец станчыць, і ўкраінскія песні праспяваць у караоке. Тым больш што побач настаўнікі добрыя былі: падчас усяго мерапрыемства спявалі госці з Маладзечна – вакальнае трыа "Краяны".

– Нашаму таварыству ўжо больш за дваццаць год, – дзеліцца старшыня культурна-асветніцкага таварыства ўкраінцаў "Краяны" з Маладзечна **Леанід Лысакабылка.** – Яго задача – развіваць і зберагаць украінскую культуру, мову і фальклор. Самае каштоўнае ў нас – гэта трыа "Краяны", лаўрэаты Рэспубліканскіх фестываляў Нацыянальных культур у Гродне. Нашы артысты сёння спяваюць на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах – рэпертуар у іх вялікі.

Разам з "Краянамі" мядзяльчане і павесяліліся, і пасумавалі – песні розныя былі. Ацанілі і ўкраінскі байкі, якія чытаў **Леанід.**

А яшчэ наведвальнікі маглі ўспаміны старажыла паслухаць. Жыхар Мядзела **Міхаіл Гардон** прывёў такую статыстыку:

– Да вайны ў Мядзеле жыло 65 яўрэйскіх сем'яў, у якіх налічвалася каля 350 чалавек. Падчас вайны фашысты знішчылі каля 200 чалавек. Цяпер у Мядзеле засталося толькі два яўрэі.

Ён не толькі ўспамінамі падзяліўся, а і ўрывак з вясельнай песні праспяваў.

Найдаўжэй спыніліся госці ў беларускай хатцы: тут ім і сцэнку з героямі "Паўлінкі" паказалі, і пачастункі прыгатавалі.

Адно шкада, што наведвальнікаў на сёлетнюю "Ноч музеяў" прыйшло менш, чым летась. Аднак той, хто не завітаў, зможа яшчэ пабачыць гэтыя выставы – некалькі тыдняў яны прабудуць у музеі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Спявае вакальнае трыа "Краяны".

● СВЯТЫ

# "Лазовыя карункі" сабралі майстроў ад 9 да 79 год

**ВІЛЕЙКА. – А што гэта там на плошчы робіцца? – пыталася адна віляйчанка у другой.**

– Кірмаш, вырабы з лазы прывезлі. Такая прыгажосць!

Гэткі водгук пачуў пра шостае рэгіянальнае свята-конкурс майстроў лозапляцення "Лазовыя карункі", які прайшоў ў Вілейцы ў суботу. Сабраліся тут майстры з Мінскай вобласці.

– Добра ведаю, як гэта свята пачыналася, – прыгадваў старшыня журы доктар мастацтвазнаўства **Яўген Сахута.** – У адным раёне, у другім спрабавалі праводзіць, аднак ніхто не асмельваўся ўзяць на сябе пастаяннае правядзенне гэтых святаў. А Вілейшчына асмелілася. І свята стала раённым брэндам.

Пасля ўрачыстага адкрыцця майстрам адвялі тры гадзіны на стварэнне конкурснага вырабу. Сярод удзельнікаў былі і вопытныя майстры, і зусім юныя. **Ул'яне Бялько з Маладзечна** толькі дзевяць год – а яна ўжо ў другі раз удзельнічае ў падобным конкурсе.

– Мне тады шэсць год было, – успамінае. – З бабуляй плялі донца.

**– Сёння што робіш на конкурс?**

– Беларускі кошык. Мяне бабуля Ніна ўсяму навучыла. Пляценне з лазы мне цікавае тым, што гэта вельмі даўні занятак. Раней трэба было хадзіць у лес па ягады і грыбы, значыць – з лазы кошычкі сплесці.

– Нас дзесяць чалавек з калектыву "Вербачка" маладзечанскага Палаца культуры прыехала, шэсць з іх у конкурсе ўдзельнічаюць, – гэта ужо дапаўняе бабуля Ульяны – **Ніна Шайко**. – А дагэтуль тры дні былі са сваімі вырабамі на адкрыцці чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску. Асабліва нашы кошыкі, падносы турыстаў цікавілі, ды і ўсё плеценае.



Фота Аляксандра ВЫСОЦКАГА.

На свяце майстры дзяліліся сакрэтамі.

### Ад лазы да ліпы

Прадстаўніца Вілейшчыны **Марыя Бурко** здзівіла ўсіх не вырабамі з лазы – яна пляла лапці з ліпавага лыка.

– Першыя лапці, можа, ў гадоў дзевяць зрабіла, сусед навучыў. А зараз мне 79.

Не забылася, як робяцца.

Яна і ўнука да гэтай справы прывучыла. Побач з ёй стараўся **Аляксандр Сюдак**.

– А ці абуваеш калі лапці? – пытаю.

– Не, я толькі пляту. А бабуля – бывае.

– Лапці – гэта ўжо брэнд нашага дома майстроў, – уступае ў размову дырэктар Каловіцкага дома майстроў **Тамара Бурко**. – Увогуле ад нас у конкурсе пяць чалавек удзельнічаюць. Нашы майстры ездзілі на чатыры з шасці падобныя святаў і заўсёды з узнагародамі вярталіся.

І калі маладзечанцаў і віляйчан было шмат, то Валожыншчыну на конкурсе прадстаўляў адзін майстар – **Аляксандр Кацура:**

– На ўсіх гэткіх святах быў, апроч першага.

**– За што падабаецца лаза?**

– Не ведаю. Падабаецца – і ўсе. Я сам электрык па спецыяльнасці,а ў вольны час гэтай справай займаюся. Ужо дзесяць год.

**– Чым такія мерапрыемствы карысныя?**

– Гэта проста цікава. І кантакты з іншымі майстрамі наладжваеш. У кожнага сваё штосьці ёсць, свая іскрыначка – тут можна падзяліцца.



Фота Аляксандра ВЫСОЦКАГА.

Самая юная ўдзельніца конкурсу – Ул'яна Бялько з Маладзечна – пляла кошык.

### Тры лаўрэаты з рэгіёна

Увесь час, пакуль майстры працавалі, са сцэны гучалі песні – выступалі артысты з Вілейшчыны. А віляйчане тым часам выбіралі сабе сувеніры па гусце: апроч шматлікіх вырабаў з лазы, былі яшчэ з гліны, дрэва, саломкі.

– Мне падабаецца ў Вілейку прыязджаць, тут добра вырабы разбіраюць, – дзяліўся з пакупнікамі адзін з майстроў.

На заканчэнні свята адбылося ўзнагароджанне. Галоўныя ўзнагароды – дыпломы лаўрэатаў – з прадстаўнікоў нашага рэгіёна атрымалі **Генадзь Унукаў** (Маладзечна), Аляксандр Кацура (Валожын), **Уладзімір Фаменка** (Вілейка). Іншых таксама адзначылі ў розных намінацыях. Напрыклад, самых юных удзельнікаў свята Ульяну Бялько, Аляксандра Сюдака ўзнагародзілі ў намінацыі "За творчы дэбют".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КАНЦЭРТЫ

# Віталь Качаткоў рыхтуе канцэрт у тэатры

**МАЛАДЗЕЧНА. Расповед пра свой канцэрт Віталь Качаткоў пачаў з размовы пра перамožцу сёлетняга песеннага конкурсу "Еўрабачанне" Канчыту Вурст.**



Фота забяспечана Віталем КАЧАТКОВЫМ.

Віталь Качаткоў – лірычны музыкант і спявак.

– Як табе Канчыта? Не вельмі падтрымліваеш, так? Нечаканы вобраз, сапраўды.

**– А вы падтрымліваеце?**

– Я думаю, што Канчыту зразумее любы артыст. Артыст не павінен быць такім, якога разумеюць да канца. Нармальныя і зразумелыя людзі сядзяць у зале. Без барады складана было б дабіцца такога поспеху. Гледача чапляюць фрыкі, эпатажныя артысты. А людзі прыходзяць на шоу, яны хочуць убачыць свята, нешта незвычайнае. Што мы хацелі, тое і атрымалі.

А Канчыту так у штыкі ўспрымаюць мужчыны, бо яна зачапіла самае запаветнае мужчынскае – бараду. Паглядзі: штаны жанчыны забралі ў свой гардэроб, працуюць нароўні… Барада засталася апошнім выключна мужчынскім атрыбутам. А яна ўключыла яго ў жаночы вобраз. Яна зламала стэрэатып. Я ўпэўнены, што цяпер на бараду і вусы пойдзе мода праз жаночыя аксесуары. Дарэчы, у жанчын растуць валасы на падбародку. Выдаляць іх вельмі балюча і ненатуральна. Таму яна паказала, што гэта можа быць не недахоп, а частка вобразу.

Але пагля дзіце, яна ж усіх любіць, не мае злосці зусім. Галоўнае – гэта аддзяляць асобу ад сцэнічнага вобразу. Канчыта – гэта вобраз, і гэта другаснае. Першаснае – прафесіяналізм, а спявак артыст выдатна!

**– А вы на канцэрце выступіце ў вобразе Канчыты?**

– На адным канцэрце я выступіў у вобразе ўркі. Спяваў "Мурку". Ва ўсіх шок быў, бо я лірычны музыкант, а тут раптам такое… Гэта вельмі складаны вобраз для мяне. Напэўна, Канчыта мне больш блізкая, чым урка. Але наўрад ці я буду ў ім. Хаця наогул мне прапаноўваюць выступаць у многіх вобразах.

**– Чаму выступленне менавіта ў тэатры?**

– Я не стадыённы артыст, а камернага жанру. Мая музыка не для натоўпу. Мы зладзілі нягучную рэтра-праграму для тых, каму ёсць што ўспомніць. Гледачы пачуюць лірычныя песні з добрым данясеннем, з пяшчотнымі пачуццямі. Будуць не толькі мае песні, але і праверaныя часам кампазіцыі.

**Канцэрт "Дзякуй, сэрца!" адбудзецца ў Мінскім абласным драматычным тэатры 29 мая.**

У праграме будуць песні "Темная ночь", "Постой, паровоз", "Мурка", "Как много девушек хороших", "Генералы песчаных карьеров", "Очи черные". Яны будуць выкананыя цікавым некласічным вакалам. Аматары музыкі прасочаць за рухам мелодыі і атрымаюць задавальненне.

**Даведка "РГ". Віталь Качаткоў** – аўтар і выканаўца лірычнага шансону, музыкант, прадзюсар, кампазітар і шахматыст. Прадпрымальнік. Жанаты, бацька траіх дзяцей. Віцэ-чэмпіён свету сярод шахматыстаў-непрафесіяналаў (2002 год). Скончыў музычныя школу і вучылішча (духавыя, труба). Саліраваў у школьным хоры. Служыў у арміі ў Маскве ва Узорным ваенным аркестры ганаровай варты. Пасля арміі займаўся бізнесам. Скончыў Інстытут культуры. Жыве ў Маладзечне.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КУЛЬТУРА

# Выйшаў зборнік вершаў сталых віляйчан

**ВІЛЕЙКА.** Выйшаў зборнічак вершаў "Яшчэ не позна…". Яго выдалі ў межах гуманітарнага праекта "МОСТ – міласэрнасць, зносіны, супрацоўніцтва, талерантнасць" пры падтрымцы Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэцы.

У зборнічку змешчаныя вершы шасці сталых віляйчан. Вершы пераважна на беларускай мове.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

У ліку пераможцаў конкурса “Твой стыль” трыа прадстаўніц Маладзечна: Кацярына Касцевіч, Настасся Роўда, Наталля Тур.

● КОНКУРСЫ

# Журналісты “РГ”: Да фотаздымкаў падыдзем стылёва

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда “Рэгіянальнай газеты” заняла трэцяе месца ў конкурсе “Фотабатл”, які праводзіўся ў межах фестывалю моладзевай журналістыкі “Твой стыль” у Гродне 16-18 мая.**

Каманда з Маладзечна ў складзе карэспандэнтаў “РГ” **Настассі Роўды, Наталлі Тур** і навучэнкі школы маладога журналіста пры рэдакцыі “РГ” **Кацярыны Касцевіч** спаборнічала з 19 камандамі з Мінска, Гродна, Слуцка, Слоніма, Барысава, Гомеля...

Адзін дзень, два фотаапараты, тры тэмы, дзевяць фотаздымкаў і восем гадзін, каб усё паспець, каб злавіць патрэбны фотамомант.

Тэмы зададзеныя былі настолькі розныя і нечаканыя, што так ці інакш даводзілася варушыць звілінамі, каб прыдумаць ці заўважыць “Беларускае ў горадзе” (так гучала першая тэма). Ці не абмежавацца адным фотаздымкам прылаўка на рынку ў тэме “Рынкавыя адносіны”. А трэцяя тэма “Памер мае значэнне” прымусіла звярнуць увагу і на розных жучкоў-павучкоў, і на мелкія грашовыя купюры, і на раслінны свет, і на дэталі ў адзенні ці абліччы маладзечанцаў.

Узнагароджанне пераможцаў адбылося ў Гродне. Фестываль “Твой стыль” доўжыўся тры дні. У межах фестывалю праходзілі сустрэчы, семінары, трэнінгі. Журналісты і фатографы, выкладчыкі і рэжысёры, музыкі і джамперы, экскурсаводы і народныя майстры рабілі кожную хвіліну праведзеную на фестывалі асэнсаванай і значнай.

Але праграма фестывалю не скончылася толькі майстар-класамі ад **Глеба Лабадзенкі, Яўгена Валошына, Аляксандра Ждановіча, Ліны Казаковай** і іншых прафесіяналаў у сваёй дзейнасці, але і парадавала выступленнем джазавага дуэту **Паўла і Алены Аракелянаў,** паказам дакументальнага кіно, экскурсіяй па Гродне журналісцкім.

Адзінае, аб чым можна было пашкадаваць, што фестываль праходзіць раз на два гады.

Фотаздымкі ўсіх пераможцаў конкурса глядзіце на нашым сайце.

Rh.by

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка РГ: Джамперы** – хадулі з рысорамі, якія пружыняць. Яны дазваляюць падскокваць на некалькі метраў уверх і хутка бегаць. Адпаведна, джамперы – гэта і людзі, якія займаюцца джампінгам.

## Пераможца конкурсу “ Твой стыль” – 15-гадовая дзяўчынка з Краснага

**МАЛАДЗЕЧНА. Кацярына Касцевіч, навучэнка школкі маладога журналіста пры рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты”, стала пераможцай у асноўнай намінацыі конкурсу “Твой стыль” “Нешта не так”.**

У гэтай намінацыі журы вызначала лепшыя артыкулы альбо рэпартажы, прысвечаныя вострым і актуальным для грамадства пытанням, нестандартным падыходам да іх вырашэння.

У намінацыі было прадстаўлена больш за 50 работ, напісаных маладымі журналістамі на вострыя злабадзённыя пытанні.

Сумесная праца Кацярыны Касцевіч і **Зоі Хруцкай** пра тое, што ў вёсцы Краснае, на тым месцы, дзе ў час вайны спалілі людзей, цяпер садзяць бульбу, не пакінула раўнадушным сябраў журы.

Кацярыне прысудзілі перамогу, як самай малодшай канкурсантцы. За перамогу Кацярына атрымала планшэт.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота Настассі РОЎДЫ.

**Фотаздымак “Плюшавы дэсант” лепшы ў серыі “Рынкавыя адносіны”.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

**“ Цікава, колькі б ён сабраў лайкаў”. Серыя “Рынкавыя адносіны”.**


Фота Наталлі ТУР.

**“З раніцы ў лазню”. Серыя “Беларускае ў горадзе”.**

ФУТБОЛ

# Вышынскія: сітуацыя ў маладзечанскім футболе катастафічная

**МАЛАДЗЕЧНА. Дзмітры і Аляксей Вышынскія – бацька і сын, якія ў камандзе ДЗЮСШ-4 адстойваюць гонар Маладзечна ў абласных спаборніцтвах па футболе.**

На дваіх у спадароў Вышынскіх амаль паўвека футбольнага стажу. Дзмітры іграе ўжо больш за 30 гадоў. Аляксея бацька прывёў на стадыён, калі той яшчэ і хадзіць толкам не ўмеў.

Таму і пра стан маладзечанскага футбола разважаюць на поўным сур'ёзе, робячы высновы і выносячы прапановы.



Дзмітры Вышынскі (справа): Я прывучыў Аляксея (злева) да самааналізу. Ён сам ведае пра све недахопы ў гульні і імкнецца іх выпраўляць.

Фота Наталлі ТУР.

## Аляксей Вышынскі: У футбол хачу гуляць, каб спаць, есці і рухацца

На сустрэчу першы прыйшоў Аляксей з сумкай і ноўтбукам:

– Я проста адразу ў Мінск на вучобу еду, сесія хутка.

**– А дзе вы вучыцеся?**

– У БДУ, будучы эканаміст-менеджар, але калі я знаходжуся на парах, мяне заўсёды такі жах ахоплівае: як гэта ўсё жыццё правесці ў офісе, без футбола? У футбаліста ж жыццё ідэальнае: пас паў, паеў, патрэніраваўся, зноў паеў... Але так можа падацца толькі таму, хто не ведае, што такое двухгадзінная трэніроўка. Асабліва напярэдні сезона, калі трэба вельмі многа бегаць і скакаць "жабкамі". Я скажу так: мне падабаецца займацца футболам, рухацца наперад, а калі яшчэ атрымліваць за гэта некія грошы, то гэта і ёсць мара.

**– Вы футболам займаецеся даўно?**

– З дзяцінства. І першай цацкай, здаецца, быў футбольны мяч, што бацька падарыў.

**– Як гэта, гуляць у адной камандзе з уласным татам?**

– Прышпільна (усміхаецца). Бывае, што пасля дрэннай гульні бацька і падваліць можа. Але крыўды на яго не маю, таму што ведаю, што ён лепей ведае, як трэба. Я сябе адношу, хутчэй, не да тых футбалістаў, якім з дзяцінства дадзена гуляць у футбол, а да тых, хто сваё ўменне напрацоўвае з часам. Таму мне важныя думка і бацькі, і трэнера **Аляксандра Гармазы**. Я ўвогуле яго лічу выбітным трэнерам і за тое, што і гуляць вучыць, і за тое, што заўсёды словы патрэбныя знаходзіць.

**– Ці ёсць у вас у футболе запаветная мара? Напрыклад, у камандзе якой сусветна вядомай згуляць?**

– Вядома ёсць. Але з тых мар, якія тэарэтычна маглі б спраўдзіцца: хацелася б сабраць усіх маладзечанскіх хлопцаў і выйграць з імі першую лігу Чэмпіянату краіны. Глядзіце, якая магла б атрымацца каманда: **Сяргей Цвяцінскі**, які цяпер іграе ў вышэйшай лізе за Слуцк, **Дзмітры Вяршыцкі** з "Белшыны", **Сяргей Корсак** з "Беліта Вітэкс", **Ігар Нарожнік** з ФК "Смаргонь", **Яўген Курловіч** з ФК "Слонім" і нашы хлопцы. Мог бы быць матч стагоддзя. Але пакуль не будзе ў горадзе чалавека, які палюбіў бы футбол, нічога новага са станам футбола не зменіцца.

## Дзмітры Вышынскі: У другой лізе цяпер гуляюць лебедзь, рак і шчупак

**– Як вы ацэніваеце сённяшні стан футбола ў Маладзечне?** – пытаюся ў **Дзмітрыя Вышынскага** як у чалавека, які прысвяціў футболу большую палову жыцця.

– Сітуацыю ў нашым футболе можна назначыць адным словам – катастрофа. Цяпер з новым хакейным клубам увогуле працэнту не відаць.

**– А вы сочыце за гульнямі ФК "Маладзечна"?**

– За гульнямі не сачу, калі атрымліваецца, то наведваю. У мяне такое адчуванне, што на полі іграюць лебедзь, рак і шчупак. Ніхто не разумее, дзе хто знаходзіцца. Вось у апошняй гульні, якую я бачыў, **Прохара Новікава Дзмітры Ганчароў** (РГ: трэнер ФСК "Маладзечна-2013") паставіў на левы бок у абарону. Хіба толькі больш не было, каго паставіць. Прохар не горшы за тых, хто іграў у цэнтры. Нават з трыбунаў было бачна, што яму нязручна там. Прохар гулец крэатыўны, у цэнтры поля ад яго толку было б болей. У футболе цяжкасцяў жа асаблівых няма, схема простая: адкрыўся, прыняў, аддаў. Не разумею, як трэнер каманды не можа бачыць відавочных рэчаў.

**– А сябе вы бачыце на трэнерскай рабоце?**

– Чаму не, у мяне і адукацыя дазваляе. Толькі пакуль прапаноў не паступала. Я і так, можна сказаць, у нечым трэнер. Трэнірую, вучу моладзь. Бывае, што Пятровіч (РГ: Аляксандр Гармаза, трэнер ДЗЮСШ-4) не дакрычыцца з броўкі, тады непасрдна з поля бяру кіраванне на сябе. А хто ж яшчэ дзяцей навучыць? Вось мы размаўлялі з кіраўніцтвам "Маладзечна-2013", яны гульцоў прасілі. А як ім дзяцей аддаць? Атрымоўваецца, што аддаём іх у нікуды. Ну пагуляюць год, а на наступны год зноў грошай не дадуць, і што тады?

**– Вы гулялі ў футбол у пачатку 90-х. Чым той футбол прынцыпова адрозніваўся ад цяперашняга?**

– Стаўленнем да футбалістаў. Прыгадайце, хто быў тады кіраўніком горада? **Генадзь Карпенка**, ён і перад гульнёй у распранальню заходзіў, і на матчы выязныя з намі, бывала, ездзіў. А цяпер? Вось далёка хадзіць не трэба, у мінулым годзе за тое, што мы сталі трэцімі на вобласці, нас запрасілі ў выканкам на ўручэнне медалёў. Але час прызначылі на тры гадзіны дня. Для каго гэта зрабілі? Дзеці ў школе, дарослыя на працы. У выніку прыйшоў **Віталь Казяк**, згроб узнагароды ў кішэню і паддаваў нам. А што, так цяжка было зрабіць урачыстае ўзнагароджанне, зладзіць невялікі канцэрт?

**– Выйсце ёсць з такога становішча?**

– Магло б быць. Са свайго боку я бачу адно, што калі б у мінулым сезоне **Дзяніс Мятліцкі** (РГ: былы трэнер ФСК "Маладзечна-2013") стрымаў свае амбіцыі і пагадзіўся працаваць з Гармазой, то у маладзечанскіх футбалістаў з'явіўся б шанец на нармальную гульню. А тое, што цяпер у камандзе гуляюць футбалісты, якіх Ганчароў назбіраў па аб'яўцы на вакзале, гэта абсурд. Відаць, трэба самаму станавіцца такім Капскім (РГ: старшыня праўлення ФК "БАТЭ") і падымаць з каленяў маладзечанскі футбол.



Наталля ТУР.
E-mail: turenok_08@mail.ru

КУЛЬТУРА

## Каманды з Маладзечаншчыны выйграюць

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН.** Гульні трэцяга тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе адбыліся 17 мая. "Забудова-2007" дома выйграла ў каманды "Крупкі-ДРБУ-164" – 5:2. "Маладзечна-ДЮСШ-4" выдатна згуляла ў гасцях: упэўнена перамагла моцную каманду "Жодзіна-2007" 5:1. Маладзечанец **Павел Майсяёнак** здолеў забіць у матчы чатыры галы.

"Вілія" з Вілейкі ў першай хатняй гульні з мінімальным лікам 0:1 прайграла камандзе "СМІаўтатранс" (Смалявіцкі раён). Зноў саступіў "Валожын-2010" у гасцях футбольнаму клубу "Барысаў" з лікам 1:8.

Тры каманды з нашага рэгіёна апанавалі ў групе "А" месцы з другога па чацвёртае. Размясціліся так: "Маладзечна-ДЮСШ-4", "Вілія", "Забудова-2007". Усе гэтыя каманды пасля трох гульняў маюць у актыве па шэсць ачкоў. А вось "Валожын-2010" пакуль не здабыў ніводнага ачка.

## "Смаргонь" атрымала другую перамогу

**СМАРГОНЬ.** Пасля няўдалага старту ў чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб "Смаргонь" атрымаў другую перамогу запар. На дамашнім стадыёне "Юнацтва" 17 мая "Смаргонь" перамагла 2:0 адназ з лідараў чэмпіянату – "Іслач". У першым тайме на 24-й хвіліне вызначыўся **Рындзюк**, у другім – **Калінін** (як і ў мінулым матчы, ён забіў гол на 70-й хвіліне).

Апошнія перамогі дазволілі "Смаргоні" палепшыць становішча ў турнірнай табліцы: клуб узняўся на 11-е месца.

## Вызначыліся бегуны з Будслава

**МЯДЗЕЛ.** 13 мая ў Барысаве прайшлі абласныя спаборніцтвы па лёгкаатлетычным кросе сярод вучняў школ. Адбываліся яны ў межах 26-й абласной круглагадовай спартакіяды.

Вызначыліся ў спаборніцтвах прадстаўнікі Будслаўскай сярэдняй школы. У старэйшай групе на дыстанцыі дзве тысячы метраў перамагла **Анастасія Рудкоўская**, а ў сярэдняй лепшым на такой жа дыстанцыі быў **Антон Роўда**.

Аддзел інфармацыі.

## Першынство па скачках на батуце прымала Вілейка

**ВІЛЕЙКА.** Ад 13 па 15 мая ў Вілейцы прайшло першынство Беларусі па скачках на батуце. Прымалі ўдзел юнакі і дзяўчаты 2002 года нараджэння і маладзейшыя. Спаборнічалі яны ў дзвюх узроставых катэгорыях.

Медалі разыгралі сем каманд з усіх абласцей і Мінска. Мінскую вобласць прадстаўлялі навучэнцы СДЮШАР Вілейскага райвыканкама.

Занялі яны агульнакаманднае шостае месца (дзяўчаты былі пятымі, а юнакі – шостымі).

– Канкурэнцыя была вельмі высокая. Нашым дзяўчатам не хапіла літаральна некалькі балаў, каб заняць трэцяе месца, – распавяла намеснік дырэктара СДЮШАР **Вікторыя Пагуда**.

Сярод віляйчан найлепшы вынік у асабістым заліку паказала **Яна Аўласовіч**. Яна была чацвёртай сярод дзяўчат 2002-2003 гадоў нараджэння.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Каманда «БАТЭ» згуляе ў пляжны футбол

**МАЛАДЗЕЧНА.** 25 мая на стадыёне па пляжных відах спорту адбудзецца розыгрыш першага Суперкубка Беларусі па пляжным футболе.

На полі ў Маладзечне сустрэнуцца каманды "БАТЭ" з Барысава і СК "Віттазэнерга" з Віцебска.

Свята футбола пачнецца а 11 гадзіне з гульні жаночай каманды Маладзечна і нацыянальнай зборнай Беларусі па пляжным футболе.

Асноўная сустрэча пачнецца а 12 гадзіне.

– Пасля матча адбудзецца канцэрт Аляксея Хлястова і Моладзевага тэатра эстрады, – распавёў "Рэгіянальнай газеце" дырэктар стадыёна **Аляксей Язневіч**.

Наталля ТУР.

## "Маладзечна-2013" – ФК "Клецк". Параза маладзечанцаў 0:3

**МАЛАДЗЕЧНА.** 18 мая на гарадскім стадыёне адбылася гульня чацвёртага тура другой лігі чэмпіяната Беларусі па футболе.

У сустрэчы з камандай Клецка, маладзечанцы не паказалі ўпэўненай гульні, за што і паплаціліся першым голам у свае вароты на восьмай хвіліне матча. На 11 хвіліне лік становіцца 2:0. Адразу пасля перапынку сапернік робіць лік разгромным – 3:0.

Аматары футбола адзначылі, што зладжанай гульні ў маладзечанцаў так і не атрымалася і супрацьстаяць сапернiку яны не здолелі.

Наступная гульня адбудзецца на гарадскім стадыёне 25 мая. Маладзечанцы паспрабуюць свае сілы ў першым адборачным раўндзе Кубка Беларусі. Сапернік ФК "Маладзечна-2013" – ФК "Прыазер'е" з Верхнядзвінска.

Аддзел інфармацыі.

# Камент-эксперт Rh.by

Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420

**Чарговыя заняткі "Мовы Нанова – Мала93ечна" ўжо ў чацвер**

Вялікі дзякуй за добрыя і каштоўныя заняткі! Вельмі спадабалася! Прыйду яшчэ раз да вас! Малайцы! Павялічэння аўдыторыі!! ***Госць №4.***

**Другія заняткі "Мовы Нанова – Мала93ечна" ізноў сабралі 60 чалавек (Фотагалерэя)**

О, шанцуе вам, у кавярні, столькі прастору – хоць танцуй)) ***Дрымучы.***

**Вілейка. Жыхары вёскі Асіпавічы дамагліся навядзення парадку**

Пакуль міліцыянеры не будуць мець паўнамоцтвы, як паліцыя у той жа Нарвегіі, амаль кожны нявыхаваны беларус і госць нашай краіны будзе пакідаць смецце дзе дазволіць сумленне, нават у іх прысутнасці кідаць недакуркі ці плявузгаць семкамі. Зараз гэта дазволена. Нешта трэба мяняць. ***Tadzik.***

**Швейцарскія электрычкі ад 1 чэрвеня пусцяць па маршруце Мінск — Маладзечна**

Хто ведае, як дабрацца да Маладзечна з Мінск-арэны з матчаў Чэмпіянату свету, якія заканчваюцца позна, пасля 23 гадзін. Можа, маршрутка якая ёсць? ***Дзмітры.***

Дзмітры, едзеце ў Мінск на электрапоездзе з Масюкоўшчыны (23:05, 23:20, 23:35), а затым у Мінску сядаеце на цягнік 623 Віцебск-Гродна альбо 633 Магілёў-Гродна, якія адпраўляюцца ў 23:59. Прыбываеце ў Маладзечна ў 01:18. ***Уладзімір.***

**Пяць падпалаў за тыдзень: маладзён паліў сена, цюль і рубероід**

Нармальна… Пайшоў курыць, падпаліў нечый дом, потым зноў за стол. Добры сусед жыхарам гэтай вёскі. Каб скраў што талковае, можна зразумець. А навошта паліць? ***Ігар.***



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 6 | | | 5 | | | |
| | 8 | 5 | 9 | | | | | |
| 2 | | | | | 3 | | | 8 |
| 4 | | 2 | | | | | | 1 |
| | 1 | 7 | | | | 4 | 9 | |
| 3 | | | | | | 7 | | 2 |
| 5 | | | 6 | | | | | 7 |
| | | | | | 7 | 5 | 8 | |
| | | | 3 | | | 1 | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9сустракалася толькі адзін раз.



## ● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Паваражу я на рамонках…

## ● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыйны фантастычны баявік "**Касмічны пірат Харлак**", 3D (Японія, ЗША, 2013, да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
23 мая – 18.30
24 мая – в 16.00, 18.30
25 мая – в 13.00, 18.30
27-29 мая – в 18.30
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Фантастычны экшн "**Гадзіла**" 3D (ЗША, Японія, 2014, да 12 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
23 мая – в 16.00
24-26 мая – в 21.00
28-29 мая – в 21.00
Кошт білета – 45 000 - 55 000 рублёў.

Анімацыйныя прыгоды "**Кот Гром і зачараваны дом**", 3D (ЗША, Бельгія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
24 мая – в 14.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Фантастычны баявік, прыгоды "**Новы чалавек-павук: Высокае напружанне**", 3D (ЗША, 2014, дзецям да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
23 мая – 21.00
25 мая – 15.30
26 мая – 18.00
27 мая – 21.00
Кошт білета – 45 000 - 55 000 рублёў.

*ЗАЛ ПОВЫШЕННОЙ КОМФОРТНОСТИ*

Анімацыя "**Аэратачкі**" (ЗША, 2012, без узроставых абмежаванняў)
23-24 мая – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер "**Сінісцер**" (США, 2012, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
23-24 мая – 21.30
25 мая – 19.30
27-28 мая – 19.30
29 мая – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Меладрама "**Уік-энд у Парыжы**" (Вялікабрытанія, 2013, прагляд дазволены гледачам пасля 16 год)
23-24 мая – 17.30
25-26 мая – 21.30
29 мая – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма "**Адзін дзень**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2011, да 14 прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
23-24 мая – 19.30
25 мая – 17.30
27-28 мая – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНИЕ СПЕКТАКЛІ*

Цыркавая клаўнада для дзяцей і дарослых "**Цырк, цырк, цырк!**" (Мікіта Благаў)
25 мая, нядзеля – 12:00

**Гастролі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

Музычная казка "**Шматкі па закавулачках**" (*Рыгор Осцер*)
27 мая, аўторак – 10:30, 12:40
28 мая, серада – 10:30, 12:40

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**Гастролі Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

Неверагодная гісторыя ў 2-х дзеях "**Мужчына да свята**" (*Надзея Птушкіна*)
27 мая, аўторак, сцэна Палаца культуры –19:00

Праграма аўтарскай песні, выкананне вядомых хітоў. Творчы вечар Віталя Качаткова "**Дзякуй, сэрца!**"
29 мая, чацвер – 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7,*
тэл: **76-17-32, 75-24-17**.
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/

## ● ГАРАСКОП

**(23-29 МАЯ)**



**Авен.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.



**Цялец.** Вы прыцягнеце да сябе ўвагу супрацьлеглага полу, таму сумаваць не прыйдзецца. Прыгледзьцеся, магчыма, вы адшукаеце родную душу.



**Блізняты.** Старайцеся стрымліваць свае жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.



**Рак.** Вучыцеся давяраць людзям, не прыніжайце іх. І наогул вядзіце барацьбу са сваімі негатыўнымі рысамі характару, асабліва яўнай перавагай над іншымі, гардыняй.



**Леў.** Вы вельмі патрабавальныя да сябе і да іншых. Вашы адносіны да людзей не пакідаюць месца эмоцыям. Больш праяўляйце свае пачуцці.



**Дзева.** Абараняйце свае інтарэсы – толькі тады можна пазбегнуць страт. Змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, прыкладзіце намаганні, каб усё змянілася да лепшага.



**Шалі.** Не спяшайцеся. Прысвяціце пэўнай справе больш часу, зрабіце яе якасней і эфектыўнай. Інакш у ёй не будзе сэнсу.



**Скарпіён.** Не спяшайцеся прымаць рашэнні, выкарыстайце вольны час для свайго задавальнення. У асабістым жыцці вы не будзеце праяўляць ініцыятыву, таму складзецца сітуацыя, калі рашэнні будуць прымаць за вас.



**Стралец.** Вас чакае нечаканы прыбытак, а таксама прыемныя нечаканасці на працы. Вы можаце нічога не рабіць, але ўсё будзе складвацца надзвычай спрыяльна.



**Казярог.** Уласнае жыццё змяніцца ў тым выпадку, калі вы пераменіце погляды і перастанеце шукаць ідэальнага спадарожніка жыцця. Паспрабуйце ўвасобіць у жыццё старыя мары, тыя, што здаваліся немагчымымі.



**Вадалей.** Вы можаце трапіць у сітуацыю, калі за вамі будзе апошняе слова. Ад вашага рашэння будзе многае залежаць. Але трэба ўсё ўзважыць.



**Рыбы.** Калі ад вас запатрабуецца прыняцце важнага рашэння, то не бойцеся рызыкаваць – што б вы ні вырашылі, вынік будзе толькі на вашу карысць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

Камент-эксперт Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

**24 мая, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +16 +25 | | +17 +28 | | +19 +28 | | +18 +26 | |
| | 746 | ↖ 3 | 745 | ↖ 3 | 745 | ↖ 3 | 744 | ← 2 |
| Вільня | +15 +26 | | +17 +28 | | +18 +29 | | +17 +26 | |
| | 755 | ↖ 4 | 754 | ↖ 4 | 754 | ↖ 4 | 753 | ← 2 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.53
Захад 21.25
Даўжыня дня 16.32

Усход 3.01
Захад 16.19
Квадра 4




## ● ПРЫКМЕТЫ

- Май мокры і халодны – год хлебародны.
- Макей (24 мая). На Макея туман і ўдзень мокра – усё лета будзе мокрае. І наадварот.
- У каталікоў Магдалена (29 мая). Магдалена зязюльку прысылае.

# ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ

## Якія вырабы народных майстроў вам падабаюцца найбольш?



**Аляксандр Радзевіч, навучэнец:**

– Больш за ўсё падабаецца гліняны посуд. Чаму? Бачыў неяк, як ганчар працуе. Вельмі ж яго праца зацікавіла.



**Галіна Мішчук, медработнік:**

– З дрэва. Таму што дрэва – яно жывое. А, напрыклад, жалеза – яно халоднае. Яшчэ вырабы з лёну, гліны даспадобы.



**Антаніна Гарчакова, пенсіянерка:**

– Асабліва падабаюцца вырабы з лазы – усе. Бо лаза – гэта шчасце для нашага чалавека: з яе ўсё можна зрабіць. Лаза аддае цяпло, дабрыню.



**Карына Цагалка, навучэнка:**

– Мне даспадобы вырабы з гліны – асабліва вазы. Былі на экскурсіі ў Вілейскім Доме рамёстваў – столькі там усяго цікавага!



**Славамір Крышкоўскі, пенсіянер:**

– Найболей – разьба па дрэве, кераміка, бо я сам гэтым займаюся. Быў і мастакомафарміцелем.

**Падрыхтаваў Аляксандр ВЫСОЦКІ.**

# Чытайце праз тыдзень:

● **У чысцінскім дзіцячым садку экскурсію па музеі самавараў праводзяць самі выхаванцы.**

## Самыя смешныя прычыны звальненняў

1. Цягам тыдня прыносіў на сваё працоўнае месца таполевы пух і падпальваў яго.
2. Нечакана выскачыўшы з шафы, напалохаў дзелавых партнёраў фірмы.
3. Падклаў на крэсла свайго калегі канцылярскую кнопку і сам жа сеў на яе, паказаўшы тым самым нізкі разумовы ўзровень, які не адпавядае пасадзе.

**Паводле fun.tochka.net.**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 21 (995) 23.05.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02330/85 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 446. Падпісана ў друк у 10.00 22.05.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.